


Ярэк Тапалянскі ўжо школьнік! Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 46 (1153) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 18.XI.1979 г.

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ**

# Вершы пра звяроў

## ПАЖАР

Запішчалі камары:
Лазня жабіна гарыць.
Бачым дым, адчулі гар...
Гэй, бяжыце на пажар!
Тут няма каму тушыць,
На пажары ні душы.
Прыляцеў матылёк,
Свае крылы апёк.

Жук таропка бочку вёз,
Пыл клубіўся з-пад калёс.
Па дарозе на хаду
Расплёскаў усю ваду.
Спешна горбіўся слімак,
Нёс вядзерца, небарак,
Ды заснуў каля дарогі,
Пад лістком сагнуўшы ногі.
Забубніла моцна муха
Павуку над самым вухам,
А той з месца ні на крок
І глядзіць кудысьці ўбок.
Сыпанулі гуртам мошкі,
Ажно млелі ў бедных ножкі.
Дапамога прыляцела,
Але лазня ўжо згарэла.

## ХРЫПАТЫ ПЕЎНІК

Захварэў пявун, ахрып,
Пэўна ў пеўня страшны грып.
Маці — курыцу-квактуху —
Не любіў крыклівы слухаць.

Ён хадзіў па садзе босы,
Абтрасаў на траўцы росы,
Пасля гульняў, прапацеўшы,
Ён крычаў, на плоце сеўшы.

Па халодных лазіў лужах,
Вось таму і занядужаў.
Мо ангіна, можа грып?
Захварэў пявун, ахрып.

## БАБРОВЫ МЛЫН

У затоцы жыў бабёр,
Жыта ён у жорнах цёр.
У бабровы млын на рэчку
Вёз хамяк пшаніцу, грэчку,
Вёз ён логам ды ззграз
Каля грэбелькі якраз.
Выйшаў з млына, з-пад гары,
Кум-бабёр, млынар стары,
І смяецца, што хамяк
Воз не рушыць аніяк.
І смяецца, што не змог
Ён аб'ехаць мокры лог.
Млын грукоча: так-так-так...
Дзе ж падзеўся наш хамяк?
Па гразі хамяк туп-туп,
Без мукі ён і без круп.



# ЧЫТАЕМ і пішам

# Я Ў

я я я я я я я я я я я я

як яслі ясны які язь ягада

ячмень яблык ясень Рая Зоя

Ой, які благі мароз: шчыпле

вушы, шчыпле нос.

Я Я Я Я Я Я Я Я Я Я Я Я

ма мя ла ля ва вя Яня

ў ў ў ў ў ў ў ў ў ў ў ў

вый выў мый мыў лаўка

Здароў, марозны звонкі

вечар! Здароў, скрыпучы

мяккі снег!

**Віктар Радунскі**

# НЮШКА

Ура! Нарэшце ў мяне сабака! Праўда, не эрдэль, як я хацеў, а факстэр'ер. Ну і што? Усё роўна цудоўна! Тата будзе хадзіць з ім на паляванне, а ўвесь іншы час ён будзе са мной.

Першую ноч Нюшка скуголіла і не давала мне спаць. Заснуў я толькі пад раніцу і так моцна, што нават не пачуў будзільніка. Добра, што мама мяне пабудзіла, і ў школу я паспеў на час.

Вельмі ж мне хацелася хутчэй расказаць хлопцам пра шчаня, але я стрымаўся. Вось навучу Нюшку што-небудзь рабіць, тады і пакажу. А пакуль буду дрэсіраваць яе, вучыць розным штучкам. Не толькі ляжаць або сядзець, але і, напрыклад, прыносіць капці ці сумку. Навучу Нюшку скакаць праз загароду, — можа ніжэй тае, што Сярожкаў Рэкс скача, але ўсё ж.

Спаць мне хацелася страшна. На ўроку арыфметыкі я нават задрамаў. Мішка, сусед па парце, штурхнуў мяне.

— Ты чаго спіш?

Настаўніца ў гэты час пісала заданне на дошцы. А слух у яе, я вам скажу, як у паляўнічага, і каб яна не пачула, я напісаў на картцы: „Толькі нікому!“ Напісаў і сам спалохаўся: я ж не хацеў расказваць пра Нюшку. Мішка патрос галавой і правёў далонню па горле: пакляўся, што не выдасць таямніцу. Тады я напісаў на картцы: „У мяне ёсць шчаня“. Ад здзіўлення вочы ў Мішкі зрабіліся круглыя, і ён голасна спытаў:

— Якое?

— Што „якое“, Міхась?, — спытала настаўніца.

Мішка ў такіх выпадках ніколі не губляўся.

— Я хацеў спытаць, якое поле было заарана?

Настаўніца падазрона паглядзела на Мішку.

— Калі б ты, Міхась, слухаў уважліва, ты б зразумеў, што гэтага зусім няма патрэбы ведаць, каб рашыць задачу.

Мішка дачакаўся, пакуль настаўніца зноў не павярнулася да дошкі, і напісаў на картцы: „Якой пароды?“ Я: „Факстэр'ер“. Ён: „Гончы?“ Я: „Не, паляўнічы“. Але тут настаўніца села за стол, і наша перапіска спынілася.

На перапынку Мішка зацягнуў мяне ў самы канец калідора і пачаў дапытвацца: што за парода факстэр'ер, колькі месяцаў Нюшцы і што яна ўмее рабіць? Я паабяцаў паказаць яму Нюшку, але толькі з такой умовай: па-першае, ён будзе маім асістэнтам, па-другое, пакуль мы не навучым Нюшку, аб ёй нікому ні гугу.

Мішка згадзіўся, не задумваючыся. Але потым спытаў, што значыць „быць асістэнтам“. Я зразумеў, што гэтая роля яму не вельмі спадабалася, і, як мог, асцярожна вытлумачыў, што дрэсіроўшчыку патрэбны асістэнт, памочнік. Вось, напрыклад, калі сабаку вучаць нападаць на злачынцу, асістэнт выконвае ралю злачынцы, а калі вучаць не браць у чужога ежу, асістэнт выконвае ролю чужога.

— Дык што ж гэта выходзіць, ты заўсёды будзеш добрым, а я кепскім, так? — пакрыўдзіўся Мішка.

Я пачаў яго супакойваць, сказаў, што калі ў Нюшкі будуць малыя,

я дам яму шчаня. І тады я буду ў яго асістэнтам.

Тут перапынак скончыўся, і мы пабеглі ў клас.

Апошні ўрок была руская мова. Настаўніца сказала, што будзем пісаць сачыненне. Апавяданне было пра тое, як дзеці заблудзіліся ў лесе і як яны па-рознаму сябе вялі. Я ўявіў сабе, быццам мы з Мішкам ідзем па лесе. Нашыя кошыкі поўныя грыбоў. Робіцца цёмна, і раптам заўважаем, што збіліся з дарогі. Я загадваю Нюшцы:

— Шукай, Нюшка, шукай наш дом!

І яна выводзіць нас на патрэбную дарогу.

— Вострык! Паўтары маё пытанне! — даходзіць да мяне голас настаўніцы.



Усе глядзяць на мяне і смяюцца. Настаўніца глядзіць на мяне строга, але вочы ў яе смяюцца.

— Ты што, заснуў?

— Не, — кажу, — я не сплю, а абдумваю сачыненне.

Настаўніца круціць галавой:

— Ну што ж. Калі ты так сур'ёзна абдумваеш, значыць, добра напішаш.

Я з цяжкасцю прыдумаў першы сказ, потым другі. Гэта таму, што мне вельмі хацелася спаць, проста вочы клеіліся. Калі нарэшце празвінеў званок, настаўніца сабрала сшыткі, адпусціла ўсіх дзяцей, а мяне пакінула.

— Вострык, чаму ты на ўроках носам дзяўбеш? Ты, мабыць, позна спаць кладзешся? Прыдзецца мне тваю маму запрасіць і пагаварыць аб табе.

Я адразу ўявіў сабе, як мама скажа бацьку:

„Вось бачыш! Гэта з-за таго сабакі ў яго цяпер вучоба не ідзе. Я ж казала! Я ж папярэджвала!“

— Не трэба маму ў школу клікаць. Гэта ў мяне часовая з'ява, — папрасіў я.

— Часовая з'ява? — здзівілася яна. — Ты што, і заўтра на ўроках збіраешся спаць?

Тут мне і давялося ёй аб усім расказаць.

— У мяне цяпер шчаня. З-за яго я ўсю ноч не спаў.

Настаўніца паглядзела на мяне неяк дзіўна і села.

— Якое шчаня?

— Зусім маленькае. Факстэр'ер.

— А як вы яго назвалі?

— Нюшка.

— Ага, усё нюхае і нюхае.

— А ноччу прасілася ўвесь час да мяне. Вы не турбуйцеся, я сёння вазьму яе да сябе ў ложак і буду спаць нармальна.

— Што ты! Ні ў якім выпадку. Ты абавязкова павінен вытрымаць характар. Калі ты ёй уступіш, яна табе на галаву сядзе. Ты лепш пагуляй з ёй вечарам даўжэй. Няхай яна змучыцца, дык адразу засне...

Настаўніца ўздыхнула.

— Шчаслівы ты, Вострык! У мяне ніколі не было сабакі. А я так аб ім марыла. Ну, што ж! Трымайся! Перамучайся дзве-тры ночы, і ўсё будзе добра.

Пасля ўрокаў я і мой асістэнт паімчаліся да нас дадому. Час быў пачынаць трэніроўкі.









## КАРЦІНЫ З САЛОМЫ

Ці давялося вам бачыць карціны з саломы? Прыгожыя, праўда? Салома вельмі цікавы і трывалы матэрыял для мастацтва. Звычайная салома мае розныя колеры: пшанічная — залацістая, аўсяная — залацістая з чырванаватым адценнем, ячменная — бела-ружовая.

Праца з саломай простая і цікавая. Давайце паспрабуем навучыцца працаваць з саломай.

Спачатку трэба падрыхтаваць салому. Адабраныя саломіны трэба разрэзаць ад каленка да каленка, а затым кожны кавалачак вострым ножыкам разразаем уздоўж і распрасоўваем гарачым прасам з унутранага, а потым і з правага боку. Атрымоўваем гатовы залацісты матэрыял. Трэба памятаць, што жытняя салома баіцца гарачыні, пад гарачым прасам можа пацямнець, таму раім жытнюю салому прасаваць толькі цёплым прасам.

Цяпер трэба пастарацца знайсці такі клей, які не пакідае па сабе плям на саломе.

Працу пачынаем ад выклейвання саломай аднаго тону тонкай паперы. Потым гэта будзе служыць нам асноўным матэрыялам пры рабоце.

На пачатку спрабуем выклеіць з саломы гатовы малюнак. Вось, напрыклад, ланя.

Выклейваюць малюнак на паперы, на тканіне, ці на склейцы. Калі ўжо маем падрыхтаваны фон для карціны і салому, наклееную на тонкую паперу, пераносім пры дапамозе цёмнай калькі малюнак на падрыхтаваную салому і абрысоўваем. Такім чынам атрымоўваем контуры лані. Выразаўшы ланю, наклейваем яе на падрыхтаваны фон карціны. Асобна наклейваем галінкі, траву і іншыя элементы карціны.

Калі за фон нам служыць тканіна, яе трэба наклеіць на цвярдзейшую паперу або картон. На адваротным баку картона адразу прыклейваем пецельку, каб карціну можна было павесіць на сценку.





**На спартыўных занятках у меляшкоўскай школе.**

**Фота Я. Целушэцкага.**

## Пазнаёмімся

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 83, кв. 44. Галя Радзіеўская, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 77, к. 1, кв. 10. Таня Трафімовіч, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 77, к. 2, кв. 6. Валя Куляшэвіч, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 83, кв. 8. Святлана Філіповайтэ, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. Зялёная, 34, кв. 1. Ларыса Калянкевіч, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 36, кв. 1. Іра Баравік, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-7, Гродзенскай вобласці, вул. П. Лумумбы, 91, кв. 10. Цецярдынка Іра, 13 гадоў.

* ✲ *

Оля Антыпюк, 17-208 Кленікі, Беластоцкае ваяводства.



Памалюй малюнак каляровымі алоўкамі ці фарбамі.

Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1